СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.08, 20.14, 14.06;
Віцебск — 6.55, 20.05, 14.10;
Магілёў — 5.57, 20.03, 14.06;
Гомель — 5.59, 19.55, 13.56;
Гродна — 6.25, 20.25, 14.01;
Брэст — 6.27, 20.26, 13.59.
МЕСЯЦ:
Маладзік 28 жніўня
ІМЯНІНЫ:
Міхея, Хвядоса, Аркадзя, Маркела; Юзафа.

# ЗВЯЗДА

27 жніўня 1992 г. чацвер, № 172 (21950)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# ВОЗГАЛАС

## АБХАЗІЯ: ЭВАКУАЦЫЯ НАБІРАЕ ТЭМПЫ

**Як паведамілі нам у штабе Грамадзянскай абароны Беларусі, ніякіх сур'ёзных змяненняў сітуацыі ў канфліктуючых раёнах Абхазіі за апошнія суткі не адбылося. Працягваецца ажыццяўленне мер па эвакуацыі адпачываючых з зоны канфлікту. У прыватнасці, у самы бліжэйшы час з Севастопаля ў Піцунду адправіцца марское судна, якое возьме на борт 1.620 адпачываючых, з іх 200 грамадзян Беларусі. (Пра іх было расказана ў мінулым нумары газеты). Адначасова на самалёце з Тбілісі ў Мінск будзе эвакуіравана турыстычная група з 70 чалавек.**

**Па меры паступлення новых звестак мы будзем інфармаваць сваіх чытачоў.**

## «ХАРАКТЕРИСТИКА В РАЗРЕЗЕ...»

Наша імклівае жыццё нарадзіла не толькі новыя з'явы, але і новыя жанры ў журналістыцы. «Характеристика в разрезе...» — адзін з іх, — прыярытэт вынаходства якога па праву належыць калегам з «Народнай газеты». Што ж, як кажуць, усе жанры добрыя, акрамя сумных. І акрамя несумленных. Яны не дабаўляюць гонару і аўтарытэту ні аўтарам, ні выданню, калі задача іх — дэзінфармацыя чытачоў. Прытым свядомая, разлічаная на тое, што чытач яе маўкліва «праглыне», зробіць вывады, патрэбныя «Народнай газеце».

У невялікай заметцы мы ўжо пісалі, што «Народная...» наладзіла публікацыю на сваіх старонках рэкламных «сравнительных характеристик в разрезе» (назва самой «Народнай газеты»), дзе прысутнічалі толькі выданні, падпісная цана на якія больш высокая, чым у «Народнай...». Затое адсутнічалі тыя газеты, цана на якія меншая. Мэта «дешевых» маніпуляцый вядомая: прывабіць падпісчыка.

І вось нашы калегі пішуць «рэпліку на рэплікі». Праўда, з логікай і аргументамі там цяжкавата, можна было б і не спрачацца, каб не спроба падвесці нейкую этычную базу пад не вельмі прыстойныя метады рэкламнай кампаніі.

У сваім адказе «Народная газета» сцвярджае: «Калі мы публікавалі «сравнительную характеристику», то, безумоўна, думалі пра «Народную...», а не пра «Звязду». Калі мы пішам гэтыя радкі, то, паверце, думаем не пра «Звязду», а пра «Народную газету». Ну, не можа «Народная...» (назва ж якая!) так не паважаць народ у асобе сваіх падпісчыкаў, каб «карміць» яго дэзінфармацыяй! А калі можа, то ці народная яна? Вось што крыўдна. Таму што народ заўсёды кіраваўся ў сваіх дзеяннях маральнасцю і прыстойнасцю.

Публікацыя «характеристики в разрезе» вельмі красамоўна характарызуе гэты «разрез», а думка, што «пры гэтым рэклама можа быць самай рознай», выклікае нейкі ўнутраны пратэст. Канешне, рынак рэч жорсткая, але нездарма, відаць, былыя рускія купцы, якія гандлявалі сваім таварам, сцвярджалі: «Прибыль — превыше всего, но честь превыше прибыли».

Чаго і жадаем аўтару «сравнительной характеристики в разрезе».

## Ад Мінска да Масквы на «МІГу». Чаму б не?

**Беларускі ўрад дазволіў Міністэрству абароны выкарыстоўваць ваенныя самалёты і верталёты для платных перавозак транспартных грузаў і пасажыраў на ўнутраных і знешніх лініях. Аднак пры адной умове — каб ад гэтага не пацярпела баявая падрыхтоўка «нябесных асаў». У сувязі з гэтым плануецца стварыць авіяцыйную кампанію «Белавія», якая і зоймецца арганізацыяй рэйсаў на лётнай ваеннай тэхніцы.**

# «Не плач, Айчына...»

Беларусь працягвае мітынгаваць. Застаецца толькі здзіўляцца, як гэта людзі яшчэ не стаміліся ад розных прамоў і заклікаў. 25 жніўня плошча Незалежнасці стала месцам сходу БНФ, прысвечанага гадавіне канстытуцыйнай незалежнасці Беларусі. Мітынг праходзіў без гарачых дэбатаў і сутычак з міліцыяй. Прэтэнзіі і лозунгі ўсё тыя ж: «Рэферэндум—святло ў канцы тунеля», «Без талера няма незалежнасці», «Нарабаваныя Масквой і Варшавай нацыянальныя скарбы — на Беларусь», «Беларускаму войску — беларускіх генералаў і афіцэраў», «Незалежнасць для народа, а не для апарату», «Ад апаратнага суверэнітэту — да рэальнай незалежнасці».

Бела-чырвона-белы сцяг, які стаў сімвалам нацыянальнага адраджэння, ствараў каларыт сустрэчы прыхільнікаў радыкальных дэмакратычных змен з працоўнымі Мінска і адрозніваў яе ад сходу камуністаў у парку Горкага. Ішоў бойкі гандаль значкамі, сцяжкамі, іншымі сімваламі БНФ. Вочы прысутных былі прыкаваны да трыбуны, дзе выступалі лідэры Народнага фронту, народныя дэпутаты, жыхары Мінска, беларускія літаратары.

Выступалі прадстаўнікі і іншых дэмакратычных партый: Аляксандр Дабравольскі — ад АДПБ, Міхаіл Ткачоў — ад БСДГ і іншыя. Усе іх прамовы зводзіліся да аднаго: рэспубліка ў небяспецы, і адзінае выратаванне—рэферэндум. Новым стымулам для нападак на існуючыя парадкі сталі шматлікія пажары ў лясах Беларусі.

З выступлення Зянона Пазьняка:

— Не патрэбна апускаць рукі і гаварыць, што ў нас усё дрэнна. Пад націскам народа камуністычная партыя самалiквідавалася. І гэта ўжо вялікае дасягненне. У рэспубліцы адбыліся вялікія змены. Але сапраўдная свабода і незалежнасць не прыходзяць самі, за іх трэба змагацца. Галоўнае, не трэба строіць ілюзій.

Беларускія паэты Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў успомнілі пра душу. Сапраўды, нацыянальныя набыткі культуры нішчацца. Толькі праз душу, праз чалавечы духоўны свет, праз нацыянальную самасвядомасць прыйдзе матэрыяльнае багацце і ўсталюецца парадак. Дарэчы прыйшлася песня «Не плач, Айчына. Вялікі Бог магіл тваіх палічыць раны». Зачароўвалі сваім голасам Эла Бызюк з Беластока і Кася Камоцкая. Мітынг закончыўся ўскладаннем кветак да бронзавай таблічкі з назвай плошчы Незалежнасці. Зянон Пазьняк яшчэ раз запрасіў ваеннаабавязаных сустрэцца 8 верасня на гэтым жа месцы, каб прынесці прысягу на вернасць Радзіме.

**Ганна ЛАГУН.**

На камуністычным мітынгу прысутным раздавалі творы Леніна (бясплатна). На плошчы Незалежнасці гандлявалі кнігамі Зянона Пазьняка (50 рублёў за адну). Купілі. Што-нішто прачыталі. Выбралі адзін кароткі верш, які Зянон Станіслававіч напісаў у 1988 годзе.

**Дзяды**

Прырода поўная маіх
пачуцьцяў.
Толькі нікому няма
справы да маёй прыроды.
Спакойна ж і я
параскідваю ваша
жалезьзе.
Але калі я прыйшоў,
каб раскідаць,
То ўбачыў пад попелам
душ
Магілы маіх дзядоў.

Ці зможам мы разгледзець адзін у адным за «попелам душ» — выпаленых ці то лжывай фразеалогіяй нашых былых лідэраў, ці то азлобленасцю ад паўсюдных беззаконнасці і бязладдзя — тое, што нас яднае? Параскідаць, разагнаць, перайначыць — прасцей, хаця і страшней. Цяжэй увабраць у сваё сэрца боль іншых. За ўсімі намі — агульная гісторыя, адзіныя продкі. Наша прырода, якая ўсё больш балюча помсціць нам за нашы спрэчкі і бойкі. Нашы хаты, наша мова...

Пакуль жа два мітынгі размаўляюць у розных месцах на розных мовах. Беларусам патрэбен перакладчык? Такі «перакладчык» знойдзецца, калі ўсю сілу растрацім на спрэчкі.

НА ЗДЫМКУ: у час сходу камуністаў.

НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу на плошчы Незалежнасці.
Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА. (БЕЛІНФАРМ).

# «Як жыць далей», калі «Так жыць нельга»?

25 жніўня ў парку імя Горкага адбыўся мітынг. А дакладней (па словах арганізатараў), — адкрыты сход мінскага гарадскога камітэта партыі камуністаў Беларусі, які сабраў каля паўтары тысячы ўдзельнікаў. На парадак дня было вынесена адзінае пытанне: «Як жыць далей?». Каб адказаць на яго, прамоўцы спачатку прайшліся па ўсіх балячках дня сённяшняга — беспрацоўі, эканамічным крызісе, прыватызацыі, патоку «ўзораў нізкапробнай заходняй культуры», якія захліснуў наша грамадства. Дасталося, зразумела, і «ні на што не здольным ураду і парламенту», і «жоўтай» прэсе. Дастаткова наслухаўшыся такіх прамоў і вырашыўшы, што (цытую аднаго з прамоўцаў) «так жыць нельга», сход нарэшце перайшоў да галоўнага пункта парадку дня: што рабіць?

Практычна ўсе прапановы і патрабаванні, што наогул не вызначаліся навіной, увайшлі ў прынятую на мітынгу-сходзе пастанову. Вось толькі некаторыя з пунктаў, унесеных у гэты дакумент: спыненне прыватызацыі і перадача заводаў працоўным калектывам; заканадаўчая забарона звальнення рабочых па загаду адміністрацыі; забарона гандлю дзяржаўнымі таварамі ў недзяржаўных крамах; падтрымка сялян у іх барацьбе супраць разбурэння калгасаў і саўгасаў і навязвання ім чужых форм гаспадарання; прадастаўленне штотыднёвага эфірнага часу (1 гадзіна) і г. д.

Акрамя пастановы на мітынгу былі прыняты рэзалюцыя з патрабаваннем да Вярхоўнага Савета адмяніць рашэнне аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ—КПСС і дзве тэлеграмы — у адрас мітынгу «Працоўнай Расіі» ў Маскве на Манежнай плошчы 26 жніўня, і ў турму Маабіт, Эрыху Хонекеру, — са словамі салідарнасці.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ. (БелаПАН).**

РЭПЛІКА

# Сёе-тое пра прастытуцыю

**На пазаўчарашнім мітынгу, арганізаваным БНФ, народны дэпутат Беларусі С. Навумчык у сваім выступленні «прайшоўся» па сродках масавай інфармацыі. На гэты раз сутнасць сказанага зводзілася да наступнага: маўляў, іх падмяў пад сябе Саўмін, ну, а ім, гэтым самым сродкам (як можна было зразумець прамоўцу) у выніку нічога і не застаецца, як займацца (цьфу, цьфу, прабач, чытач!) прастытуцыяй. Звернем увагу на тое, што гаварыў гэта амаль што бацька наш родны (нагадаем: С. Навумчык — сакратар Камісіі ВС па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека).**

**Адным словам, нас прылюдна паставілі ў кут. Такі вось урок выхавання...**

**І, тым не менш, няхай нават з кута, варта сёе-тое ўдакладніць. Цалкам можна пагадзіцца з тым, што, калі многія сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца ў адных руках, — гэта дрэнна. А вось наконт гэтай самай (цьфу, цьфу) прастытуцыі скажам так: вельмі цікавая заява. У ёй ёсць нейкі інтым, які прыцягвае слухачоў. І сказана гэтак па-ленінску прама. Памятаеце: буржуазная прэса — гэта прадажная прастытутка... Праўда, сярод цывілізаваных людзей прынята ў такіх выпадках прыводзіць нейкія доказы: з кім, калі, пры якіх абставінах, ну, і г. д. Як зразумела ўжо, доказаў з боку народнага дэпутата не было. Шкада. Вельмі хацелася іх пачуць.**

**Зрэшты, варта супакоіць нашых чытачоў. Не звяртайце ўвагі на гэты выдадзены на мітынгу «інтым». З паважаным народным дэпутатам здараецца такое. У мінулым годзе ён накінуўся быў на «Звязду», што яна, маўляў, падтрымала «гэкачэпістаў», а высветлілася — газета якраз выступіла супраць іх. Потым каяўся: памыліўся... Павінны напомніць паважанаму дэпутату, што сярод тых, хто «падмяў» у прыватнасці «Звязду», сярод яе заснавальнікаў ёсць яшчэ Вярхоўны Савет, а таксама працоўны калектыў рэдакцыі газеты. Здаецца, за такі расклад галасаваў у Вярхоўным Савеце і сам Сяргей Іосіфавіч. Варта падкрэсліць іншае: пазаўчора не толькі на мітынгу на плошчы Незалежнасці, дзе распараджаўся БНФ, але і на мітынгу ў парку Горкага, які праводзілі камуністы, таксама ўпаміналі прэсу. І таксама не лепшымі словамі. Карацей кажучы, гэтыя самыя сродкі, ва ўсякім выпадку, многія з іх, і, відаць, у першую чаргу найбольш масавыя, і камуністам мазоляць вочы.**

**А ўся справа, здаецца, вось у чым: розным палітычным групам, і асабліва некаторым палітыкам, сапраўды, вельмі хацелася б прыручыць сродкі масавай інфармацыі да сябе. Менавіта да сябе. Знаёмае жаданне. Але ці не дарэмныя намаганні, таварышы і спадары?**

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

# РАДЫЁ ФАКТ

Савет Федэрацыі прафсаюзаў звярнуўся ў Беларускую навукова-прамысловую асацыяцыю, Савет калгасаў рэспублікі, у Саюзы прадпрымальнікаў і арандатараў з прапановай правесці рэспубліканскі форум. На ім плануецца абмеркаваць неадкладныя праблемы стабілізацыі сацыяльна-эканамічнага становішча, выпрацаваць прапановы Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў аб удасканаленні дзеючых падатковай і крэдытнай сістэм, сацыяльнай абароне насельніцтва ва ўмовах лібералізацыі цэн. Мяркуецца, што гэты форум пройдзе ў верасні.

***

Створаны каардынацыйны савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі па пытаннях рабочых і служачых Узброеных сіл. Ён заклікаемы садзейнічаць вырашэнню задач па абароне прафесійных, працоўных, сацыяльна-эканамічных правоў і законных інтарэсаў рабочых і служачых вайсковых часцей.

***

**Сёння (27 жніўня) спаўняецца роўна год, як парламент Рэспублікі Малдова аднагалосна прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці. У інтэрв'ю прагаме «Радыё-факт» пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Малдова ў Беларусі Дзмітрый Мунцяну адзначыў, што перамір'е, якое існуе сёння на абодвух берагах Днястра, яшчэ вельмі нетрывалае. І тым не менш жыхары рэспублікі поўныя рашучасці замацаваць гэты мір. Думаецца, што тыя 60 нацыянальнасцей, што насяляюць сёння Малдову і да нядаўняга часу жылі ў дружбе, знойдуць, як і раней, агульную мову.**

***

«Восеннюю гэтага года Расію чакае непазбежнае павышэнне цэн на прадукты першай неабходнасці...» Пра гэта заявіў на нарадзе аб ходзе рэформы на месцах выконваючы абавязкі старшыні ўрада Расіі Ягор Гайдар. Па яго словах, новыя закупачныя цэны на ўраджай 1992 года немінуча прывядуць да падаражання прадуктаў харчавання.

## Ста гродзенцам аднаго ложка хопіць

**ГРОДНА. За апошнія два з палавінай гады на Гродзеншчыне скарочана больш за паўтары тысячы бальнічных ложкаў. Аднак не трэба сумаваць з гэтай нагоды, бо стаўка цяпер робіцца не на колькасць, а на якасць, інтэнсіўнасць іх выкарыстання. Калі ў 1989 годзе бальнічны ложак «працаваў» у сярэднім 305 дзён, то ў мінулым — 334. Зараз ставіцца задача дасягнуць на 10.000 насельніцтва 100—110 бальнічных ложкаў. Апошняя лічба, на думку спецыялістаў, з'яўляецца найбольш аптымальнай. Дарэчы, нядаўна на пасяджэнні калегіі Міністэрства аховы здароўя РБ Гродзенскую вобласць адзначылі сярод лепшых за выкарыстанне новага гаспадарчага механізма ў ахове здароўя.**

## «Лёс» клапоціцца пра лёс...

ОРША. У суседняй Баранi пачалося ўзвядзенне царквы для праваслаўных, якая была пабудавана яшчэ ў мінулым стагоддзі, а разбурана ў наш час, калі з касцёлаў і каплічак рабілі склады і сховішчы.

Царква аднаўляецца па ініцыятыве гараджан, а ўзводзіць яе будаўнічая фірма «Лёс».

## Прафесіяналы супраць «прафесіяналаў»

На мінулым тыдні супрацоўнікі ўпраўлення барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і крымінальнага вышуку лоб у лоб сутыкнуліся з арганізаванымі і маючымі на сваіх рахунках нямала здзейсненых злачынстваў групамі. Пра цюменскіх разбойнікаў і іх фінал мы паведамлялі ўжо. Закончыла сваю кіпучую дзейнасць і адна беларуская група, якая вызначалася ў сваёй «дзейнасці» асаблівай лютасцю і цынізмам. Тое, што яны рабілі з чалавекам, ад якога патрабавалі пераафармлення ўласнай машыны на чужое імя, не паддаецца тлумачэнню. Каб дабіцца свайго, былі праведзены фізічныя катаванні: жорсткія пабоі, падвешванні нагамі да галіны дрэва, нарэшце сталі адсякаць пальцы. Ахвяры ўдалося збегчы і папрасіць дапамогі ў міліцыі.

У злачынцаў знайшлі штык-нож, 2 газавыя пісталеты, 40 балончыкаў з газам, украдзеныя раней у грамадзян рэчы. Вядзецца следства.

**Віктар ПАТАПЕНКА.**

## АЎТАМАБІЛЬ—НЕ РАСКОША. І ЎСЁ Ж

У сярэдзіне жніўня сацыялагічная група інфармацыйна-аналітычнага аддзела «Звязды» правяла тэлефоннае апытанне 200 уладальнікаў аўтамабіляў, 34 працэнты з якіх выязджаюць некалькі разоў на тыдзень, а 21 працэнт — штодзённа. Пры гэтым больш за палавіну апытаных карыстаюцца ўласным транспартам для паездак на дачу, а 28 працэнтаў — для паездак на работу. Цікава, што 2 працэнты рэспандэнтаў выкарыстоўваюць свае машыны для перавозкі пасажыраў.

Якія ж праблемы турбуюць аўтамабілістаў? У першую чаргу гэта бензін і запасныя часткі. 97 працэнтаў апытаных хвалюе высокая цана бензіну, 6 працэнтаў — яго дрэнная якасць і 59 працэнтаў — яго малыя нормы па талонах. Палавіна апытаных перажывае з-за недахвату запчастак, а 42 працэнты — з-за іх цаны. Пры гэтым трэба ўдакладніць, што амаль 45 працэнтаў аўтамабіляў рэспандэнтаў эксплуатуюцца звыш дзесяці гадоў. Калі вяртацца да бензіну, то пераважная большасць апытаных (97 працэнтаў) лічаць, што цэны на яго ў бліжэйшай будучыні зноў павысяцца.

## ЧЫГУНКА: ЦЭНЫ ІДУЦЬ НА ЎЗЛЁТ

**Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН ва Упраўленні Беларускай чыгункі, чакаецца павышэнне цэн на чыгуначныя білеты і, не выключана, на паслугі. Адбудзецца гэта, магчыма, з 15 верасня. Кошт білетаў на пасажырскія паязды, паводле папярэдніх даных, узрасце ўдвая.**

**Афіцыяльна аб чарговым павышэнні цэн на паслугі Беларускай чыгункі будзе аб'яўлена толькі пасля таго, як Упраўленне ўзгодніць гэтае пытанне з калегамі з іншых краін СНД.**

**Святлана КУЛІКОВА. (БелаПАН).**

## Беларуская зброя ў руках англічанкі

**ГРОДНА. На базе Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта працаваў міжнародны гісторыка-археалагічны лагер, у якім знаходзіліся 14 хлопцаў і дзяўчат з 8 краін Еўропы. Раскопкі вяліся ў пасёлку Астрына, і прычым небеспаспяхова. Так, Кейт Дзігін з Англіі знайшла сапраўдны склад зброі — 20 наканечнікаў стрэл, якія праляжалі ў зямлі 8—9 стагоддзяў.**

# ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

Пасяўныя плошчы сельскагаспадарчых культур пад ураджай бягучага года, паводле даных Дзяржкамстата, ва ўсіх катэгорыях гаспадарак складаюць 5.977 тысяч гектараў, або на 39 тысяч менш, чым у мінулым годзе. У Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абласцях пасяўныя плошчы былі павялічаны на 37 тысяч гектараў, а ў Брэсцкай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях скарочаны адпаведна на 20,3 тысячы, 19,1 тысячы і 36,8 тысячы гектараў. Збожжавых і зернебабовых пасеяна 2.725,2 тысячы гектараў, што на 65,6 тысячы больш, чым у 1991 годзе. Яравыя збожжавыя і зернебабовыя скарочаны ў параўнанні з мінулым годам. Пасяўныя плошчы пад бульбай былі пашыраны ў асноўным за кошт павелічэння пасеваў гэтай культуры ва ўласных гаспадарках і склалі 765,3 тысячы гектараў, або на 115 тысяч больш, чым у 1991 годзе.

## «ЗАМЕЖНЫЯ» БЕЛАРУСЫ

**У Рэспубліцы Крым пражываюць 70 тысяч беларусаў. За іх лёс турбавацца не трэба. І прычыны гэтага самыя празаічныя — кіраўніцтва маладой рэспублікі родам з Беларусі. Так, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Крым, прадстаўнік прэзідэнта Украіны, кіраўнік дзяржаўнай адміністрацыі ў горадзе Севастопалі Іван Ермакоў нядаўна прыязджаў у Крычаў наведаць сваю 82-гадовую маці. Дарэчы, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Крым таксама з'яўляецца беларусам.**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### АБ ВАЕННАЙ ПРЫСЯЗЕ ВА УЗБРОЕНЫХ СІЛАХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Згадзіцца з прапановай Міністэрства Абароны аб прывядзенні 31 снежня 1992 г. усяго асабовага саставу Узброеных Сіл да прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь.

Прыём прысягі ажыццявіць у індывідуальным парадку.

2. Міністэрству Абароны распрацаваць новы тэкст ваеннай прысягі, праект палажэння аб парадку яе прыняцця і прадставіць іх у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

3. Унесці ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапанову аб уключэнні ў парадак дня чарговай дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанняў аб зацвярджэнні новага тэксту ваеннай прысягі і прывядзенні 31 снежня 1992 г. усяго асабовага саставу Узброеных Сіл да прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь.

**Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. МЯСНІКОВІЧ.**
**Першы намеснік Кіраўніка спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А. САКАЛОЎСКІ.**

## КУДЫ ІСЦІ З ДЫПЛОМАМ?

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). Паўмільёна рублёў дапамогі атрымалі з пачатку года беспрацоўныя абласнога цэнтра. Колькасць іх няспынна расце. Калі ў студзені налічвалася 40, а ў лютым—52 чалавекі, якія апынуліся без работы, дык зараз—486.**

— Наша служба, — расказвае кіраўнік гарадскога Цэнтра занятасці насельніцтва Аляксандр Ключынскі,— як можа дапамагае тым, хто не па сваёй волі стаў беспрацоўным. За 7 месяцаў да нас звярнуліся каля 12 тысяч чалавек. Палавіну іх мы змаглі ўладкаваць на розныя іншыя работы. Частка людзей перакваліфікавалася, частка ўладкавалася сама.

Некалькі атрадаў было сфарміравана на сезонныя работы—перабіраць у калгасах і саўгасах бульбу, прапольваць буракі. Немалая колькасць людзей адпраўлена ў Краснадарскі край дапамагаць нарыхтоўваць агародніну і садавіну. Цэнтр занятасці прымае і іншыя меры, каб уладкаваць людзей на работу. Толькі не заўсёды гэта ўдаецца. Бо за варотамі прадпрыемстваў аказваюцца ўсё новыя і новыя людзі. Да васьмідзесяці працэнтаў іх — гэта спецыялісты з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.

## КНІГА ПРА НАС

Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны рыхтуе выпуск кнігі пад рабочай назвай «Беларуская культура ў свеце». Выданне будзе прысвечана не толькі нашай рэспубліцы. Яно пазнаёміць чытачоў з беларускімі Амерыкай, Скандынавіяй, Аўстрыяй і іншымі краінамі, дзе пражываюць нашы суайчыннікі. Выпуск кнігі намячаецца на 1995 год.

**Алена АНКУДА. (БелаПАН).**

## ХОЦЬ АПОШНІМІ Ў ЕЎРОПЕ, АЛЕ БУДЗЕМ УСЁ Ж З ЗАКОНАМ

Да гэтай пары Беларусь застаецца адзінай з дзяржаў Еўропы, якая не мае ўласнага закона аб прыватызацыі. Адны падтрымліваюць такое становішча, другія рашуча выступаюць за хутчэйшае прыняцце адпаведнага дакумента. І вось нарэшце паступілі звесткі аб тым, што камісія па эканамічнай рэформе рыхтуе на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая пачнецца восенню, праект закона з умоўнай назвай «Аб раздзяржаўленні эканомікі і прыватызацыі». Як стала вядома, агульны кошт прыватызуемай у Беларусі маёмасці складзе каля 470 мільярдаў рублёў. Дарэчы, зараз 90 працэнтаў уласнасці на Беларусі належыць дзяржаве, хаця ў той жа час ні ў адным заканадаўчым акце, акрамя «старой» канстытуцыі, не агаворана, чыя гэта маёмасць. Усяго ж на сесіі ВС РБ будзе разглядацца каля ста новых законапраектаў.

# РОЗГАЛАС

## БЕЛАРУСЬ РАЗБАГАЦЕЛА. НА 13.000 ДОЛАРАЎ І 150 ЛІТРАЎ

**У час таможнага агляду ў дзевяці пасажыраў авіярэйса Мінск — Пекін было канфіскавана 13 тысяч долараў ЗША, не ўказаных у дэкларацыях. На жаль, такія правілы, і «пацярпеўшым», назавём іх так, ёсць ад чаго расстройвацца. А вось аб стане аднаго з пасажыраў рэйса Гянджа — Мінск наўрад ці ўдасца даведацца. Невядома, па якіх прычынах, але яго багаж застаўся незапатрабаваным. Дарэчы, у трох ёмістасцях супрацоўнікі міліцыі знайшлі 150 літраў вадкасці, што ўтрымлівала спірт. Можа, гэта гуманітарная дапамога?**

**Віктар ФЕДАРОВІЧ.**
**БелаПАН.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ ЗРАБІЛІ ФУРОР У ФРАНЦЫІ

*Народны ансамбль песні і танца «Сузор'е» брэсцкага будтрэста № 8 вярнуўся з міжнароднага фестывалю фальклорнага мастацтва ў Марцігу (Францыя).*

*У гэтым свяце фальклору разам з брэсцкімі самадзейнымі артыстамі прымалі ўдзел фальклорныя калектывы з Мексікі, Калумбіі, ЗША, Тайваня, Італіі, Румыніі, Фінляндыі, Ірландыі, Францыі і іншых краін свету.*

*Брастаўчане выступілі паспяхова: іх праграма «Беларусь — мая песня», якая складалася з вакальна-харэаграфічных кампазіцый, фальклорных замалёвак, спадабалася гледачам. Калектыў атрымаў запрашэнне на ўдзел у будучым годзе ў аналагічным фестывалі, які пройдзе ў французскім горадзе Экс-ан-Правансе.*

*Пасля фестывалю ў Марцігу ансамбль «Сузор'е» даў некалькі канцэртаў на курортах Міжземнага мора, а па шляху дамоў выступіў перад нашымі воінамі ў групе войск у Германіі.*

**У. МАКАРЭВІЧ.**

## «ПАЛЯВАННЕ» ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Мы ўжо паведамлялі, што на Героя Савецкага Саюза Марыю Осіпаву было ўчынена разбойнае нападзенне. У рукі скупшчыкаў узнагарод на гэты раз трапіла сярод баявых медалёў і ордэнаў і Залатая Зорка Героя.**

Чаму «Звязда» ў другі раз нагадвае пра гэтае рабаванне? Справа ў тым, што крыху раней на Лагойшчыне, у вёсцы Янушкавічы — на радзіме былой падпольшчыцы, быў абкрадзены музей. Ён знаходзіцца на тым самым месцы, дзе ў 1943 годзе была перададзена міна, на якой і падарваўся Кубэ. Але, як вы разумееце, не гэтая славутасць прыцягнула да сябе ўвагу «прадпрымальнікаў» новага мыслення. Прычына куды больш банальная: будынак не ахоўваўся, а медалі і ордэны, якія там захоўваліся, вельмі ж ужо прываблівалі паляўнічых за ўзнагародамі.

Застаецца спадзявацца, што зладзеяў знойдуць. Але той факт, што скупшчыкі ордэнаў і медалёў пакуль адчуваюць сябе спакойна, моцна, прымушае сумнявацца ў гэтым. Ці не час забараніць такі від гандлю, які нічога, акрамя маральнага ўрону, нам не дае?

## 76 МІЛЬЯРДАЎ — ВЁСЦЫ

Каля 60 мільярдаў рублёў выдзелена ў гэтым годзе Саветам Міністраў і Нацыянальным банкам Беларусі для крэдытавання аграпрамысловага комплексу. Больш чым двухмесячная засуха вялікім цяжарам легла на плечы вяскоўцаў. І таму цяпер вельмі важна правесці ўборачныя работы з найменшымі стратамі, як мага больш нарыхтаваць і перапрацаваць сельгаспрадукцыі. Менавіта на гэтыя мэты Белаграпрамбанку было дадаткова выдзелена яшчэ 16 мільярдаў рублёў.

— І ўсё ж крэдытных рэсурсаў яўна не хапае, — паведаміў карэспандэнту БЕЛІНФАРМА намеснік старшыні праўлення Белаграпрамбанка Аляксандр Застаўнюк. — Цяпер сітуацыю крыху палепшыла рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў аб выдзяленні крэдытаў прадпрыемствам і арганізацыям для папаўнення абаротных сродкаў. Але праблема недахвату фінансаў застаецца. Таму не выключана, што хутка мы зноў будзем вымушаны звярнуцца па дапамогу да ўрада.

**БЕЛІНФАРМ.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «БІ-БІ-СІ»

* Лорд Карынгтон адмовіўся ад пасады кіраўніка групы прадстаўнікоў ЕС па ўрэгуляванню канфлікту ў Югаславіі. Але ён будзе ўдзельнічаць у мірным вырашэнні гэтай праблемы. Адстаўка Карынгтона абумоўлена і тым, што ў яго ўзніклі спрэчкі і разыходжанні з генеральным сакратаром ААН Б. Галі.

* **У Сараева ў час артабстрэлу горада цяжка паранены асколкамі карэспандэнт тэлебачання Бі-бі-сі Марцін Бэл.**

* Учора ў час абмену ваеннапалоннымі абхазцы застрэлілі двух грузінскіх салдат. Гэта забойства падштурхнула грузінскі бок выставіць ультыматум: або абхазцы складваюць зброю, або будзе новае наступленне.

* **Генеральны пракурор Малдовы выступіў з заклікам вызваліць лідэраў апазіцыі ў Прыднястроўі, румынаў па паходжанню. Яны былі арыштаваны ў Цірасполі па абвінавачанню ў тэрорах. Пракурор лічыць гэты арышт незаконным.**

* Працягваецца падзенне курса долара адносна іншых цвёрдых валют, што ўжо выклікала моцны крызіс на буйных валютных біржах. Гэтае падзенне вельмі засмучае англічан, бо зніжаюцца прыбыткі англійскіх кампаній ад экспарту ў ЗША. А капіталаўкладанні Англіі там складаюць 56 мільярдаў фунтаў. Калі кошт фунта павышаецца на 10 цэнтаў, то англійскія прадпрымальнікі страчваюць мільярд фунтаў пры пераразліку долараў на сваю валюту.

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

* **У Германіі ўрад і апазіцыя абвінавачваюць адзін аднаго ў інцыдэнце, які адбыўся ў горадзе Ростаку. Там экстрэмісты з крайне правых напалі на прыёмны пункт для бежанцаў. Моладзь падпаліла памяшканні. Паранена 65 паліцэйскіх. Міністр унутраных спраў федэральнага ўрада абвінаваціў апазіцыйную сацыял-дэмакратычную партыю ў тым, што яна не супрацоўнічала ў свой час з урадам у пытанні па абмежаванню эміграцыі ў краіну. Аднак сацыял-дэмакраты заявілі, што ўрад праявіў скандальную некампетэнтнасць.**

* Паводле даных французскай арганізацыі «Медыцына без граніц», 200 тысяч людзей пакінулі Кабул, а яшчэ 50 тысяч знаходзяцца ў вельмі цяжкім становішчы. Афганцы размясціліся ў часовых лагерах, ім катастрафічна не хапае прадуктаў харчавання і вады.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

* **Ураган «Эндру» з хуткасцю ветру да 220 км у гадзіну абрушыўся на штат Луізіяна. Дзесяткі тысяч людзей загадзя пакінулі зону бедства. Ураган прывёў да гібелі ўжо 17 чалавек. Страты толькі ў Фларыдзе склалі 15 мільярдаў долараў. Гэта самы разбуральны ўраган у гісторыі ЗША.**

* У Бразіліі тысячы дэманстрантаў патрабуюць на мітынгах імпічменту пасля таго, як быў апублікаваны даклад кангрэса аб злоўжыванні прэзідэнта краіны. Яго абвінавачваюць у прысваенні мільёнаў долараў хабару, якія ён атрымліваў праз свайго памочніка, звязанага з уплывовымі групоўкамі.

* **Расійскі і кітайскі міністры абароны абмеркавалі шляхі далейшага супрацоўніцтва і далейшыя пастаўкі сучаснай зброі Пекіну.**

* На Украіне ў горадзе Роўна адбыліся крывавыя сутычкі паміж вернікамі за валоданне будынкам царквы.

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* **У Абхазіі ўжо знаходзіцца некалькі соцень апалчэнцаў з Паўночнага Каўказа. Была спроба захапіць курортны горад Гагра, бо для Канфедэрацыі горскіх народаў ён мае выключнае значэнне. Здзейснілася яе пагроза тэрарыстычных актаў. Ноччу ў Тбілісі, у доме міністра абароны Кітавані, была ўзарвана бомба. На шчасце, ніхто не забіты. Грузіны заяўляюць, што ўсе, хто прыбыў у Абхазію, каб змагацца супраць іхніх войск, знойдуць там магілу.**

* У Кувейт працягваюць прыбываць амерыканскія салдаты. Яны будуць удзельнічаць у ваенных манеўрах, якія пачнуцца ў першых чыслах верасня.

* **З Пакістана ў Кабул прыязджае група лідэраў маджахедаў, якая паспрабуе наладзіць перагаворы ваюючых бакоў у Афганістане, што працягваюць атакаваць адзін аднаго.**

* Генсек ААН Б. Галі прапанаваў дыслацыраваць у Самалі 3,5 тысячы ваеннаслужачых ААН, якія будуць ахоўваць прадстаўнікоў гэтай арганізацыі і садзейнічаць спыненню вайны. Прыкладна 2 мільёнам самалійцаў пагражае смерць ад голаду.

* **У Кітаі чуюцца заклікі прыняць строгія меры да замежных інвестараў, якія ўхіляюцца ад уплаты падаткаў.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## КУРС ВАЛЮТ

### НА ГЭТЫМ ТЫДНІ

| | Банк «Лімімпекс» (Вільнюс) | Маскоўскі Міжрэгіянальны Камерцыйны банк | Фірма «Ахатс» (Рыга) | «Комплекс» (Мінск) |
|---|---|---|---|---|
| Долар ЗША | 175—182 | 167— — | 168—178 | 185—185 |
| Марка ФРГ | 119—124 | 110— — | 111—120 | 119—119 |
| Англійскі фунт | 326—339 | — | 295—342 | 300—300 |

Курс долара, асноўнай «хадавой» валюты, па-ранейшаму застаецца вельмі высокім. Крыху ніжэйшы ён ва ўсходніх і паўднёвых рэгіёнах СНД: у Екацерынбургу за адзін «зялёны» даюць «усяго» 170 рублёў. столькі ж у Баку, Тбілісі, Ерэване. А найвышэйшы курс — на Украіне: у Кіеве, напрыклад, да 200 рублёў. Скачкападобны рост валютных каціровак выкліканы тут паведамленнем аб правядзенні ў гэтай краіне восенню грашовай рэформы і магчымым увядзеннем уласнай валюты. Па гэтай жа прычыне высокі курс валюты і ў Беларусі: назіраецца масавы адток яе ў суседнюю дзяржаву.

Па-ранейшаму стабільным застаецца ўзровень эстонскай кроны ў адносінах да долара. Скупка — 11.66, продаж — 12.59. Расшырэнне «вілкі» падказвае, што ў бліжэйшы час гэтая стабільнасць ужо не будзе адчувацца.

## З РУК У РУКІ

За два апошнія гады адказнасць за правапарадак у Талачыне пераходзіла з рук у рукі. На змену ДНД прыйшлі рабочыя атрады. Апошнія змяніла патрульна-паставая служба. Але і яна, магчыма, спыніць у бліжэйшы час сваё існаванне па той простай прычыне, што яе няма каму фінансаваць. Большасць прамысловых прадпрыемстваў і арганізацый раёна стратныя і не ў стане кагосьці дадаткова ўтрымліваць. Гэта, вядома, не ўсяляе аптымізму ў жыхароў райцэнтра, якія разумеюць, што на гэты раз свой «парадак» могуць устанавіць тыя, хто зацікаўлены ў абвастрэнні крымінагеннай абстаноўкі.

**Т. МАХТАДУЙ.**

## УВАГА: АЎТАРЭКЕТ!

Зыходзячы з аналізу злачынстваў, якія адбываюцца на аўтамабільнай магістралі Брэст — Масква, работнікі міліцыі ўпраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкома сумесна з абласным КДБ зрабілі вывад, што гэты крымінагенны ўчастак лепш кантраляваць, чым потым шукаць злачынцаў па ўсёй тэрыторыі СНД. Пачаліся рэгулярныя рэйды па спыненню злачынных дзеянняў у адносінах да вадзіцеляў транзітнага транспарту і крадзяжоў перавозімага грузу. Амаль, у кожным раёне, па тэрыторыі якога праходзіць аўтамагістраль, дзейнічаюць рухомыя атрады міліцыі. Працуюць яны не толькі удзень, але і ноччу. Ужо затрымана некалькі груп вымагальнікаў. У адной з іх, якая дзейнічала каля вёскі Лясная, знойдзены гранаты, 2 радыёстанцыі, халодная зброя. Сумесна з КДБ затрыманы жыхары Смаленскай вобласці і Івацэвіцкага раёна, якія, забраўшыся ў кузаў замежнай аўтамашыны, хацелі абчысціць яе.

**Віктар ПАТАПЕНКА.**

## І ЗЛАДЗЕІ ЛЮБЯЦЬ ЧЫТАЦЬ ГАЗЕТЫ. АЛЕ БЯСПЛАТНА

**ОРША. Аказваецца, і кіёскі «Саюздруку» могуць прыносіць рабаўнікам значны прыбытак. Так, за апошні месяц у горадзе абрабавана 6 кіёскаў, агульныя страты ад чаго склалі каля 50 тысяч рублёў. Вось і прыходзіцца міліцыі шукаць спосабы лоўлі незвычайных зламыснікаў, а кіяскёрам — прыдумваць розныя «антырабаўнічыя» прылады ў сваіх гандлёвых кропках.**

## ПАЖАРЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ НАСТУПАЦЬ

СЛОНІМ **(М. Мініч).** З пачатку летняга перыяду на тэрыторыі Слонімскага раёна зарэгістравана больш за 50 пажараў на тарфяніках і ў лесе. Агонь бязлітасна знішчае дрэвы, хмызнякі, сельскагаспадарчыя культуры. У саўгасе «Слонімскі» згарэла, напрыклад, два гектары лесу. Сянькоўшчынскім і Альберцінскім ляснiцтвах, на тарфяніках малога прадпрыемства «Мох». Павялічылася колькасць пажараў у жылым сектары і на вытворчых аб'ектах. З пачатку года адбыліся 72 такія пажары. Страты ад іх склалі 300 тысяч рублёў. Не абышлося і без ахвяр. У агні загінулі два чалавекі.

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ЖЫВАЯ КАНТРАБАНДА

У Хабараўску выкрыта група кітайскіх грамадян, якія спрабавалі перакінуць праз Расію ў Еўропу жывы тавар: сваіх суайчыннікаў, што вырашылі нелегальна адправіцца на заробкі.

### ФАРОС ЗДАЕЦЦА ЗА ВАЛЮТУ

Прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук заявіў, што шыкоўная дача, на якой былы прэзідэнт былога СССР Міхаіл Гарбачоў перажываў дні так званага «путчу», будзе цяпер здавацца замежным грамадзянам для адпачынку за валюту. Па словах Краўчука, утрыманне ўсіх месц адпачынку былых партыйных і савецкіх «вярхоў» абыходзіцца Украіне ў 100 мільёнаў рублёў штогод.

### МАО ЦЗЭДУН — БОГ?

Галандскі студэнт Альвін Сем'я, які праходзіў стажыроўку ў Пекінскім універсітэце, быў аштрафаваны на 200 юаней і высланы з краіны. Гэта здарылася пасля таго, як на адным з занятказ ён ад нечага рабіць прымаляваў вусы на партрэце Мао Цзэдуна ў падручніку па філасофіі. У час размовы з «кампетэнтнымі органамі» Альвіну паведамілі, што яму яшчэ пашанцавала, таму што «Мао ў Кітаі адыгрывае такую ж ролю, як Бог на Захадзе».

### ГРОШЫ ПА-КАЗАНСКУ

У Казані на мясцовым матарабудаўнічым аб'яднанні пачалі выраблясь крэдытныя карткі, якія заменяць грошы ў заводскіх сталовых. На картку будзе нанесены код уладальніка, а з'едзеная сума будзе вылічвацца з зарплаты. Чаго не зробіш з-за дэфіцыту наяўных грошай?

### КАРЭЛ ГОТ МЯНЯЕ ПРАФЕСІЮ

Вядомы чэшскі эстрадны спявак Карэл Гот, якога суайчыннікі назвалі «залатым горлам», вырашыў даказаць, што ў яго яшчэ і залатыя рукі. Нядаўна ў Празе з вялікім поспехам прайшла выстава 22-х яго карцін, намаляваных у стылі Сальвадора Далі.

### СПРАВЫ КУРОРТНЫЯ

Вось колькі бяруць з чалавека сёння за пражыванне ў суткі ў некаторых гарадах: Алушта—50—100 рублёў; Геленджык — 20—75 рублёў; Дагамыс — 25—50; Еўпаторыя — 25—60, Есентукі — 30—40; Паланга — 30—40; Сочы — 30—70; Судак — 30—60; Юрмала — 30—50; Ялта — 100—150 рублёў.

# «Двух сэрцаў адно рашэнне

## ЦЯПЕР МОЖА КАШТАВАЦЬ ТАТАВАГА АЎТАМАБІЛЯ

Абавязковая развязка ўсіх «падпадушачных» раманаў, чые старонкі маюць загадкавае адценне, — вяселле. Галоўны герой уручае галоўнай гераіні заручальны пярсцёнак з жамчужынай «Каралева Афрыкі», а стотысячны натоўп у нямым здзіўленні разглядвае шлюбны ўбор нявесты, сатканы з воблакаў і павуціння. Аркестр іграе туш, ворагі пераможаны, на ўсім свеце пануе справядлівасць. І няхай у жыцці нашых дзяўчынак усё больш проста і сціпла, у праве на каралеўскі трон не адмоўлена нікому — вось і строчаць па начах машынкі, творачы з марлі і прасціны нешта чароўнае.

Дарэчы, мы забеглі наперад. Ужо калі пісаць пра вяселле, лепш успомніць аб прапанове і наступным знаёмстве «зацікаўленых бакоў». Менавіта гэтым сваяцкім плячам прыйдзецца вытрымаць нялёгкі святочны цяжар, пачынаючы з пакупкі кветачак на сукенку і канчаючы часам продажам аўтамабіля — інакш за гэтае задавальненне не разлічыцца.

Хоць гэтае задавальненне не такое ўжо і вялікае — пад марш хуценька прабегліся, ля Вечнага агню некалькі разоў «шчоўкнуліся», ды з ветрыкам у кафэ ці рэстаран — адзначаць. Раней, прынамсі, гэта было традыцыяй. Яшчэ мамы і таты памятаюць шчодры ўзмах бацькоўскай рукі: «...ды так, каб уся вёска (дом, вуліца. горад) на дзесяць (дваццаць, трыццаць і г. д.), гадоў запомніла!»

На жаль, нам цяпер стала больш складана — шматлікія рэформы і падаражанні з'елі ўсе адкладзеныя на «чорны дзень» рублі, ператварыўшы вяселле сапраўды ў чорнае — для кашалька — святкаванне. Але лепш узброіцца паперай, алоўкам і падлічыць, у колькі сёння абыходзіцца самая сярэдненькая «падзея».

Такім чынам, на першым часе закаханая пара траціць не шмат — за падачу заявы трэба заплаціць крыху менш сотні. Затое потым прыйдзецца прыцягнуць бацькоўскія капіталы. Пашыў «святая святых» — белай сукенкі — у атэлье «цягне» на тры з паловай тысячы. Можна абысціся і «малой крывёю», узяўшы ўбор напракат. У гэтым выпадку вы пазбавіцеся ўсяго тысячы — але за дзень. Затым спатрэбяцца белыя туфлі. Калі абавязкова будуць патрэбны такія, як у Золушкі, — шукайце яшчэ тры тысячы. Але можна купіць і што-небудзь прасцейшае, зменшыўшы затраты ў паўтара раза.

Цяпер пагаворым пра жаніха. Ён абыдзецца нам крыху танней — касцюм за тысячы тры, а туфлі няхай старыя лепш пачысціць — будуць як новыя.

Такім чынам, з адзеннем і абуткам разабраліся. Розныя дробязі накшталт аздаблення машын у разлік не бяром — сведкі паклапоцяцца. Нам бы яшчэ пярсцёнкі купіць, якія цяпер «не простае ўпрыгажэнне», а самая сапраўдная валюта. Зусім нядаўна адна мая знаёмая набыла сабе адзін за два з палавінай «кускі»—і нічога, задаволеная засталася.

Такім чынам, апрануць жаніха і нявесту абыдзецца прыкладна ў 14—15 тысяч. Але гэта калі сябры не дапамогуць: добрая сяброўка і сукенку дасць, і туфлі, і вяночак падорыць. А ўжо калі інтэрнат «сваю» замуж выдае — тут нават жаніха замяніць змогуць. Галоўныя расходы ўсё роўна наперадзе — адно таксі знішчыць паўгадавую стыпендыю. А вось у ЗАГСе маленькі «расслабончык»: дзяржаўная пошліна за рэгістрацыю шлюбу — смешна сказаць— 15 рублёў. За ўрачыстасць— музыку і слёзы бацькоў на дыване — 150, але гэта цяпер таксама не грошы. Нават відэакасета з першым «законным» пацалункам «цягне» ўсяго на паўтысячы. І фатографы, аказваецца, людзі — за першы адбітак 70 рублёў бяруць, за астатнія — па 24. Яны разумеюць, што вам яшчэ ў рэстаран ехаць, дзе за аднаго чалавека прыйдзецца выкласці ад 300 да 500 рублёў. А калі прыкінуць, што ў сярэднім на вяселле прыходзіць 50 запрошаных — аўтамабіль усё ж прыйдзецца прадаць.

Дарэчы, калі хопіць смеласці, можна адзначыць проста, па-хатняму — ва ўласнай кватэры. Хоць я з цяжкасцю ўяўляю, што будуць рабіць паўсотні людзей на трыццаці метрах. Памойму, калі, вядома, ваш жаніх не тэхаскі мільянер, вяселле можна адзначыць значна прасцей: ну іх, гэтыя белыя сукенкі і чорныя «Волгі»! Усё роўна больш за ўсё маладыя хочуць, каб іх хутчэй пакінулі адных...

**Алена АНКУДА.**
**(БелаПАН).**

# «СВАІХ ЗЕМЛЯКОЎ-ВАЕННЫХ ПАКІДАЦЬ ЗАЛОЖНІКАМІ НЕЛЬГА»

## ГУТАРКА З НАМЕСНІКАМ МІНІСТРА АБАРОНЫ РБ ГЕНЕРАЛ-ПАЛКОЎНІКАМ ПЯТРОМ ЧАУСАМ

**— Пётр Рыгоравіч, вы толькі што вярнуліся з паездкі па Сярэдняй Азіі. Як там адчуваюць сябе ваеннаслужачыя беларусы?**

— Не самым лепшым чынам. Больш таго, выбухова небяспечная абстаноўка, якая склалася ў гэтым рэгіёне, датычыць, вядома, і іх. І смяротная небяспека таксама.

У Туркменістане 1.165 салдат і сяржантаў—грамадзян РБ, ва Узбекістане —162, у Таджыкістане —536 плюс 27 афіцэраў плюс 20 матастралкоў. Усе вышэйпералічаныя ваеннаслужачыя — пагранічнікі. Менавіта таму ў нас узніклі вялікія цяжкасці на перагаворах з таджыкскім бокам. Калі беларусы-пагранічнікі паедуць цяпер дамоў, граніцы гэтай краіны стануць фактычна адкрытымі — не хопіць людзей нават для арганізацыі баявых пастоў. Да таго ж, Таджыкістан і «напірае» на тое, што няма ні аўтамабільнай, ні авіяцыйнай тэхнікі, ні паліва для эвакуацыі нашых хлопцаў. Ды і дарогі там цяпер вельмі небяспечныя.

Усё ж мы змаглі з сабой вывезці адтуль 132 чалавекі, яшчэ 200 у хуткім часе таксама прыбудуць на Радзіму.

**— І ім знойдзецца месца ва Узброеных Сілах рэспублікі?**

— Я думаю, што мы проста абавязаны ўладкаваць іх. Гэта ж нашы землякі, якія вяртаюцца на Радзіму і толькі ў ёй бачаць сваё выратаванне. Але павінен тут жа адзначыць, што агульнае імкненне завалодаць зброяй (АКМ «ідзе» за 100 тысяч рублёў) ахапіла і некаторых беларусаў у рэспубліках Сярэдняй Азіі. Некаторыя з іх знаходзяцца пад следствам. Так што работы хопіць і для нашай ваеннай пракуратуры.

**— І што ж ім інкрымінуецца?**

— Продаж і крадзеж зброі. Калі больш канкрэтна, то «нашы» прадавалі боепрыпасы да гранатамётаў, аўтаматы, была спроба крадзяжу аўтаматаў і гранат. Але, паўтаруся, такіх выпадкаў нямнога. Проста абстаноўка, напрыклад, у тым жа Таджыкістане сама правакуе на падобныя ўчынкі. У гэтай краіне дамоўленасць паміж урадам і апазіцыяй аб здачы зброі мірным насельніцтвам і ўзброенымі атрадамі не выконваецца.

І ўвогуле, сітуацыя развіваецца непрадказальна. Нам ніхто не захацеў паведаміць, ці ёсць загінуўшыя сярод ваеннаслужачых беларусаў. Падазраю, што такой інфармацыі ад таджыкскага боку мы не даб'ёмся і далей. Выйсце ў гэтай сітуацыі адно — тэрміновая эвакуацыя ваеннаслужачых беларусаў да восені гэтага года.

**— Наколькі гэта рэальна?**

— Узбекістан ужо пагадзіўся абмяняць салдат і сяржантаў узбекаў на салдат і сяржантаў беларусаў. Больш цяжка вырашаецца пытанне з Ашхабадам і Душанбе. Але яго проста неабходна вырашыць у самыя кароткія тэрміны нашаму Вярхоўнаму Савету, Галоўнаму ўпраўленню пагранвойск, грамадзянскай авіяцыі і Міністэрству абароны. Таму што недзе ў сярэдзіне кастрычніка ў высакагор'і, дзе ў асноўным знаходзяцца пагранічныя заставы сярэднеазіяцкіх рэспублік, выпадае снег. І ўсялякая сувязь з пагранічнікамі знікае аж да сярэдзіны мая. Вы ўяўляеце, што можа адбыцца з нашымі хлопцамі ў гэты час?

**— Па некаторых звестках, не ўсе рэспублікі Сярэдняй Азіі ў стане забяспечыць ахову сваіх граніц, і таму яны збіраюцца звярнуцца за дапамогай да Расіі. Напэўна, шмат у вырашэнні праблемы вяртання нашых землякоў-ваенных на Радзіму залежыць ад расійскага боку?**

— Сапраўды, з Расіяй трэба вырашаць гэтае пытанне таксама. Не пакідаць жа нашых людзей заложнікамі. Пэўныя захады ў Маскву ўжо зроблены. Я думаю, што тут асаблівых перашкод не ўзнікне.

**— Ці звярталіся да вас, Пётр Рыгоравіч, у час вашай паездкі мірныя жыхары беларусы з просьбай аб дапамозе ў вяртанні на Радзіму?**

— Былі такія звароты. Ім таксама цяпер вельмі нясоладка. Са свайго боку мы можам толькі паралельна садзейнічаць непасрэднай эвакуацыі гэтых людзей у Беларусь сіламі сваёй авіяцыі. Усім жа астатнім — пытаннямі ўладкавання, жылля, працы і г. д.— павінен займацца наш урад.

**— Наколькі мне вядома, нядаўна вы былі і ў Бабруйску. Сумна вядомая бабруйская танкавая армія.**

— Мэтай маёй паездкі былі не нейкія там крымінальныя моманты: злоўжыванне службовай уладай, крадзеж і продаж дзяржмаёмасці і г. д. Я цікавіўся ў першую чаргу, наколькі высокая баявая падрыхтоўка арміі, стан воінскай дысцыпліны. Пасля праведзеных сустрэч з людзьмі, а таксама афіцэрскага сходу ўпраўленне арміі разам з міністрам абароны прыйшлі да высновы, што абстаноўка ў арміі нездаровая, і яе ўпраўленне не здолела згуртаваць воінскі калектыў для выканання службовых абавязкаў.

**— Канкрэтныя меры.**

— Камандуючы арміяй генерал-лейтэнант С. Румянцаў будзе звольнены з радоў Узброеных Сіл рэспублікі, начальнік штаба генерал У. Крукаў паехаў служыць у расійскую армію, яго намеснік генерал А. Чарноў звольнены. Увогуле, ніхто з высокіх чыноў былога ўпраўлення ў новае камандаванне ўжо механізаванага корпуса не трапіць.

**— А ці не адбудзецца так, што ў апошнім не знойдзецца месца і тым людзям, якія першымі загаварылі аб злоўжываннях службовай уладай у танкавай арміі?**

— Гэта будзе вырашаць спецыяльная атэстацыйная камісія. Той, хто ўяўляе каштоўнасць для воінскай службы, будзе пакінуты.

**— А не скажаце, колькі ўвогуле будзе пакінута ваеннаслужачых у радах узброеных Сіл да канца года?**

— У Хельсінкі мы заявілі аб ста тысячах нашага новага войска. Цяпер магу сказаць, што яго будзе менш. Увогуле, гэта вельмі складаны і балючы працэс для нашых Узброеных Сіл. Шмат незадаволеных. Не хапае сродкаў.

**— Вы маглі б іх мець, прадаючы ваенную тэхніку і зброю, як гэта робяць, напрыклад, Украіна і Расія.**

— Уся справа ў законах. Трэба мець адпаведны прававы механізм, каб займацца продажам зброі. Мы ж пакуль пазбаўляемся ад старой тэхнікі. Але ўжо цяпер маглі б паставіць на сусветны рынак танкі. баявыя машыны пяхоты, артылерыйскія сістэмы, абсталяванне для ваеннай тэхнікі, боепрыпасы. Можам прадаваць і самалёты, але да іх трэба абавязкова запчасткі і забеспячэнне гарантыйнага тэрміну абслугоўвання. Заводаў жа па выпуску і рамонту самалётаў у Беларусі няма. Але, я думаю, і гэтае пытанне вырашыцца. Час безуладдзя ўжо, здаецца, мінуў. Пара прымаць канкрэтныя рашэнні.

**— Да іх можна аднесці і прыняцце беларускім войскам сваёй прысягі Але тыя ж Расія і Украіна ўжо пачалі гэты працэс. Мы расцягнулі яго яшчэ на некалькі месяцаў.**

— Гэта прапанова Міністэрства абароны — да новага года прывесці войскі да сваёй прысягі. Вярхоўны ж Савет на чарговай сесіі можа скараціць гэты тэрмін.

Мая асабістая думка — трэба даць магчымасць чалавеку вызначыцца. Я ведаю, што некаторыя, нават военачальнікі высокага рангу (камандзіры часцей, злучэнняў і г. д.) у сур'ёзным роздуме. Для афіцэра прыняць прысягу — ледзь не самая галоўная падзея жыцця. Таму кавалерыйскім наскокам тут дзейнічаць нельга.

**Гутарыў**
**Аляксандр КОКТЫШ.**

## СЦЯПАН БАНДЭРА ЖЭНІЦЦА

Пасля правакацыі ў лістападзе 1990 года супраць лідэра апазіцыі Украіны Сцяпана Хмары каля парламента стаяў камуністычны пікет, сярод плакатаў якога быў і такі — «Бандэра і Хмара — два боты пара!». Камуністы, як аказалася, трапілі ў цэль: у пачатку верасня гэтага года ў Храме Святога Юра ў Львове адбудзецца шлюб Сцяпана Андрэевіча Бандэры (унука Сцяпана Бандэры), студэнта Таронцкага ўніверсітэта (Канада), і Саламеі Сцяпанаўны Хмары (дачкі Сцяпана Хмары). Жыць маладыя будуць у Кіеве.

# Інтэлект — на карысць Беларусі

**Інтэлект — багацце нацыі. З гэтай думкай цяжка спрачацца, асабліва калі бачыш дасягненні тых краін, якія зрабілі стаўку менавіта на розумы сваіх грамадзян. Ды і Беларусь прайшла вялікі шлях ад былой ускраіны Расійскай імперыі да дзяржавы з вялікім эканамічным і навуковым патэнцыялам дзякуючы найперш розуму і працы сваіх сыноў і дачок. Але сёння склалася прыкрае становішча: нізкая аплата, пагроза скарачэння—усё гэта вельмі неспрыяльна адбіваецца на становішчы нашай інтэлектуальнай эліты. Час зараз цяжкі, дапамогі чакаць не прыходзіцца. Таму для абароны людзей інтэлектуальнай працы і быў створаны рух «Інтэлектуальны рэсурс Беларусі». Наш карэспандэнт сустрэўся і задаў некалькі пытанняў намесніку старшыні прэзідыума Рады каардынатараў руху «ІРБ» сп. Уладзіміру ТРАЦЦЯКОВУ.**

**— Уладзімір Мікалаевіч, калі прыйшла думка аб стварэнні арганізацыі такога роду? Якія яе галоўныя мэты і задачы?**

— 22 чэрвеня 1992 года адбылася ўстаноўчая канферэнцыя руху «Інтэлектуальны рэсурс Беларусі». Было нас 17 чалавек, перш за ўсё навуковых работнікаў і прадпрымальнікаў «новай хвалі», якія выйшлі з навуковага асяроддзя.

Што падштурхнула да стварэння такой арганізацыі? Справа ў тым, што зараз цяжкі час, для ўсіх, але для людзей, якія жывуць са свайго інтэлекту, ён яшчэ цяжэйшы. Калі рабочы не надта высокай кваліфікацыі можа зарабіць некалькі тысяч, то доктар навук атрымлівае на ўзроўні мінімальнай зарплаты. Каб не быць галаслоўным, прывяду прыклад. Адна са спачуваючых нашаму руху — Зінаіда Якаўлеўна Мажэйка, шырока вядомая ў навуковых колах як даследчык беларускага фальклору. Яе работы атрымалі міжнароднае прызнанне. Нядаўна яна атрымала ліст, у якім гаворыцца, што яна трапіла ў спіс 2.000 найбольш вядомых жанчын свету, якія дабіліся поспеху ў сваёй справе і прызнання сваіх заслуг. У гэтым спаборніцтве Зінаіда Якаўлеўна апярэдзіла дзесяткі тысяч прэтэндэнтак. А ў сваім родным інстытуце яна атрымлівае палавінную стаўку, ды і тую плануецца скараціць. Вось такая прыніжанасць інтэлекту і ёсць галоўная праблема сёння. І каб яе зняць, мы і вырашылі аб'яднаць свае намаганні. Як гаворыць прымаўка: «Май лоб як браму, але кемлівей грамады не будзеш».

**— Значыць, ваша мэта — выправіць гэтае прыкрае становішча?**

— Не толькі. Як грамадская арганізацыя мы маем права заканадаўчай ініцыятывы і гатовы выкарыстаць яго. Мы хацелі б прапанаваць Вярхоўнаму Савету праект Праграмы аб новай інтэлектуальнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь. Такая праграма павінна быць прынята і здзейснена на дзяржаўным узроўні.

Беларусь—адна з нямногіх рэспублік былога СССР, дзе няма Дома навукоўца. Таму адным з нашых першых крокаў будзе арганізацыя Палаца інтэлекту, які быў бы цэнтрам дзейнасці ў розных напрамках сучаснай навукі і культуры. Там маглі б дзейнічаць навукова-даследчыя лабараторыі, банк ідэй і патрэбнасцей, базы даных аб нашых навукоўцах, іх праектах, дзелавых прапановах.

Але гэта ў будучым, а пакуль мы хацелі б рэальна дапамагчы нашым калегам. Якім чынам? Мы збіраемся стварыць дастаткова шырокі камерцыйны «пояс» з прадпрыемстваў, прадукцыя якіх будзе, у асноўным, навукаваёмістай. Гэта дазволіць стварыць новыя рабочыя месцы, ліквідаваць беспрацоўе і пагрозу страты нашага навуковага патэнцыялу.

**— Як рух «ІРБ» ставіцца да эміграцыі навукоўцаў з Беларусі?**

— У эміграцыі ёсць і карысныя, і адмоўныя бакі. Калі чалавек атрымлівае прапанову папрацаваць за мяжой на кароткі тэрмін — гэта выдатна і для яго, і для дзяржавы, бо там ён зможа павысіць свой навуковы ўзровень, пазнаёміцца са сваімі калегамі, з новымі навуковымі работамі ў сваёй галіне. Іншы выпадак, калі навуковец ад'язджае назаўсёды. Гэта вялікая страта для краіны, і гэтага трэба пазбягаць, прымаць усе меры, каб захаваць добрыя ўмовы для працы менавіта тут, дома.

**— Якой вы бачыце сваю арганізацыю ў будучым?**

— Наша дзейнасць разлічана на вялікі тэрмін. Нам хацелася б стварыць новую тэхнасацыяльную структуру, якая дазволіла б людзям працаваць па-новаму. Мы не ставім перад сабой ніякіх палітычных задач, але імкнёмся выкарыстаць усе свае правы і магчымасці, каб здзейсніць асноўную мэту: павысіць ролю інтэлекту ў нашым грамадстве.

**— Дзякуй за размову.**

**Кантактны тэлефон руху «ІРБ» 36-32-46.**

**Юрась ДРАЗДОЎ.**

